№ 110 (1673)

Чацвер, 19 чэрвеня 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +21...+23, уначы — +13...+15; у Брэсце ўдзень — +23...+25, уначы — +15...+20; у Гродне ўдзень — +23...+25, уначы — +13...+15; у Віцебску ўдзень — +17...+19, уначы — +10...+12; у Гомелі ўдзень — +20...+22, уначы — +10...+12; у Магілёве ўдзень — +20...+22, уначы — +10...+12.

На ўсёй тэрыторыі краіны захаваецца сонечнае, без ападкаў надвор'е.

www.meteo.by



ПУЛЬС

## Конкурс па стварэнні надмагільнага помніка У.Мулявіну



На конкурс па стварэнні надмагільнага помніка народнаму артысту СССР, мастацкаму кіраўніку ансамбля "Песняры" Уладзіміру Мулявіну паступіла "велізарная колькасць прапаноў". Пра гэта БелаПАН паведаміў першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Рылатка.

У рамках гэтага конкурсу таксама плануецца выбраць лепшыя праекты мемарыяльных шыльдаў, якія ўсталююць у Мінску на доме, дзе жыў У.Мулявін, і ў Екацярынбургу, дзе ён нарадзіўся. Конкурс праводзіцца ў рамках мерапрыемстваў па ўшанаванні памяці "песняра".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Міжнародная канферэнцыя па дэмакратызацыі тэлевяшчання ў Беларусі

У Мінску адкрылася міжнародная канферэнцыя па праблемах дэмакратызацыі тэлевізійнага вяшчання ў Беларусі. Яна арганізавана Грамадскім аб'яднаннем "Беларуская асацыяцыя журналістаў" пры падтрымцы Савета Еўропы і аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі "Артыкль19", якая выступае супраць цэнзуры ва ўсім свеце. У падрыхтоўцы канферэнцыі таксама ўзялі ўдзел Саюз журналістаў Расіі і Фонд абароны галоснасці (Масква).

У інтэрв'ю БелаПАН віцэ-прэзідэнт БАЖ Эдуард Мельнікаў зазначыў, што "Беларускае тэлебачанне ў большай ступені служыць уладзе, чым народу". "Мы былі сведкамі шматлікіх праяўленняў фальсіфікацыі фактаў і дыфамацыі палітычных працiўнікаў рэжыму з боку "Агенцтва тэлевізійных навін" — гэтага своеасаблівага спецназу Беларускага тэлебачання".

Выйсце з цяперашняй сітуацыі БАЖ бачыць у арганізацыі "сапраўднага грамадскага тэлебачання, якое ствараецца для грамадства, служыць яму і кантралюецца грамадскасцю", сказаў Э.Мельнікаў.

У канферэнцыі бяруць удзел звыш 100 палітыкаў, дзеячаў культуры і журналістаў. Яны абмяркуюць стан масавага тэлевяшчання ў краіне, міжнародны вопыт грамадскага тэлебачання, пытанні трансфармацыі масавага тэлевяшчання ў краінах пераходнага перыяду, а таксама вопыт і перспектывы недзяржаўнага тэлебачання ў Беларусі.

Арганізатары канферэнцыі мяркуюць, што яна пакладзе пачатак руху за айчыннае грамадскае тэлебачанне.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Брэсцкай крэпасці патрабуецца 2 мільёны долараў

Для завяршэння рэстаўрацыйных работ у мемарыяльным комплексе "Брэсцкая крэпасць-герой" да 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў патрабуецца 2 мільёны долараў. Такую лічбу ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН назваў дырэктар мемарыяльнага комплексу Валерый Губарэнка.

Рэстаўрацыйныя работы ў мемарыяльным комплексе пачаліся ў 1996 годзе, пасля таго як кіраўнікі дзяржаў краін СНД прынялі рашэнне аб выдзяленні сродкаў на гэтыя мэты. За 7 гадоў на патрэбы крэпасці паступілі 2 мільёны долараў ад Расіі, Беларусі, Казахстана, Малдовы; ад Украіны — граніт на суму 175 тысяч долараў.

У 2003 годзе з саюзнага бюджэту Расіі і Беларусі выдзелена 4,5 мільёна расійскіх рублёў, але гэтых грошай недастаткова.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## У Польшчы жыве менш за 50 тысяч беларусаў

**Галоўнае ўпраўленне статыстыкі Польшчы агучыла вынікі ўсеагульнага перапісу насельніцтва краіны, які адбыўся яшчэ ў мінулым годзе. Згодна з афіцыйнымі данымі, колькасць беларусаў, якія пражываюць у Польшчы, складае 48,7 тысячы чалавек.** Гэтая лічба аказалася ў 3 разы меншая ад прагнозаў, якія да гэтага часу агучваліся прадстаўнікамі беларускай меншасці.

"Я і так лічу, што гэта вельмі добры вынік. Але хачу падкрэсліць, што пытанне пра нацыянальнасць увогуле не павінна ўваходзіць у перапіс насельніцтва. Вельмі часта пытанне пра нацыянальнасць увогуле не задавалася, толькі ўпісвалася, што анкетаваны паляк", — гаворыць Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза Польшчы. Ён сцвярджае, што сапраўдная колькасць беларусаў, якія пражываюць у Польшчы, складае каля 150 тысяч чалавек.

Найвялікшай нацыянальнай меншасцю ў Польшчы з'яўляюцца немцы, якіх, згодна з данымі перапісу, 150 тысяч. Другое месца за беларусамі. 97 працэнтаў жыхароў краіны — палякі.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

ВІНШУЕМ!

# Прарок і заступнік Айчыны Беларусі

### Сёння, 19 чэрвеня 2003 года, народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву — 79 год. Дзень нараджэння ён адзначае на роднай зямлі

Знешне ў паставе і ў абліччы гэтага сціплага, заглыбленага ў сябе, у сваю душу чалавека, які стаў, як цяпер модна гаварыць, "брэндам", а прасцей кажучы — знакавай асобай, сімвалам Беларусі, даўно, з шасцідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, няма нічога асабліва адметнага, паказнога, гераічнага. Выдатнага пісьменніка сучаснасці Васіля Быкава ў людскім натоўпе можна палічыць за прадстаўніка любой, самай звычайнай прафесіі. Ён — часцінка плоці і крыві народа.

З дзесяцімільённае беларускае грамады, якая амаль незварушліва марнее ў няпэўнасці, "не надта імкнучыся пачуць нават голас Бога ці хоць бы зведаць патрэбу спазнаць, да чаго трэба імкнуцца", яго вынесла і замацавала на бачнай усім духоўнай вышыні роднае Слова. Пераплаўленае ў горане сумленнай, звышадчувальнай душы, яно стала самабытным, непаўторным словам Быкава, якое не зблытаеш ні з якім іншым, якое пастаянна вядзе змаганне за гуманізм, праўду і справядлівасць у людскім быцці, адстойвае чалавечнасць у чалавеку...

Штуршком для сталай пісьменніцкай творчасці Быкава стаў вопыт самай крывавай і бязлітаснай вайны XX стагоддзя, на якую ён трапіў юнаком. З прызыўнікоў 1920—1924 гадоў нараджэння, як сведчыць статыстыка, выжыла ў гэтай бойні толькі тры працэнты. Неаднаразова паранены, пасечаны асколкамі снарадаў, ушацкі сялянскі хлопец, які ваяваў камандзірам стралковага ўзвода ў "матухне-пяхоце", а затым дапамагаў пехацінцам агнём славутых "саракапятак", знішчаючы фашысцкія танкі, усё ж выйшаў з пекла, ацалеў. Канечне ж, гэта была шчаслівая выпадковасць. Але чамусьці хочацца верыць, што Вышэйшая Воля тут паспрыяла беларусам, якім звычайна ніколі не шанцуе. Яна зберагла і жыццё, і магутны літаратурны талент Быкава, якому было наканавана раскрыцца поўна і глыбока.

Многае з напісанага пра вайну канула ўжо ў Лету і ніколі не будзе запатрабавана ні сённяшнім, ні будучым чытачом. Гэта тычыцца не толькі шматстаронкавых, пафасных, бадзёрых, "шапказакідальніцкіх" мемуараў многіх савецкіх военачальнікаў. Любая хлусня, нават літаратурная, прыхарошаная, аздобленая штучнай мастацкасцю, выкрываецца самім жыццём і, як непатрэбшчына, адкідваецца ім.

Зусім іншы лёс у сапраўднай літаратуры, якая паказвае сапраўдную вайну. Паказвае не толькі подзвігі, але і ўвесь бруд, гвалт, здзек, подласць, здраду, якімі поўніцца аж цераз край любая, нават нібыта і праведная, крывавая калатнеча. На вайне, як і ў экстрэмальных сітуацыях мірнага часу, адкрываюцца і светлыя вышыні, і цёмныя закуткі, прорвы чалавечай душы.

Крута замешаная на бескампраміснай праўдзе, ваенная проза Васіля Быкава, пачынаючы з "Жураўлінага крыку", "Трэцяй ракеты", "Здрады", "Мёртвым не баліць" і да самых апошніх па часе напісання твораў, годна вытрымала чытацкі экзамен. Самыя лепшыя яе старонкі ўжо ўвайшлі ў сусветную літаратурную скарбніцу пісьменніцкіх сведчанняў пра вайну. А мы ж добра помнім, як "у штыкі" сустракаўся амаль кожны новы твор Быкава апалагетамі сталіншчыны, фальшывай героікі, колькі нерваў і крыві яны папсавалі яму тады. Ды і ў апошнія гады пры цяперашнім аўтакратычным рэжыме ўзмацніліся нападкі на пісьменніка, які паслядоўна і цвёрда адстойвае сваю жыццёвую пазіцыю, які мае высокі міжнародны літаратурны і грамадскі аўтарытэт і плённа выкарыстоўвае яго для высакароднай мэты — абароны незалежнасці Беларусі, права нашага народа на самавызначэнне, на цывілізаванае, дэмакратычнае, заможнае быццё.

Прыроднае і абвостранае, загартаванае вайною пачуццё справядлівасці заўсёды вядзе Быкава ў творчасці і ў жыцці. Яму, лепш чым камусьці, вядома цана той нялёгкай, крывавай Перамогі. І таму ён асуджае сённяшнюю ваенізацыю мірнага жыцця, бессаромную эксплуатацыю палітыканамі "постсавецкага разліву" гераізму мінулага для сваіх карыслівых, кан'юнктурных мэтаў, для самасцвярджэння.

Нягледзячы на тое, што беларускае Адраджэнне цяпер, як гэта ўжо было неаднойчы, захлынаецца ў віры каманднаадміністратыўнай мітусні, чыноўніцкага гвалту і засілля, новай русіфікацыі, Васіль Быкаў быў і застаецца ягоным самаадданым і клапатлівым будаўніком. Ён не губляе надзеі, што беларусы ўсё ж вырвуцца з чарговага цемрашальства і выспеляць сваю жыццесцвярджальную волю.

Не толькі мастацкае, але паралельна з ім і публіцыстычнае слова Быкава на працягу апошніх гадоў смела прарывае інфармацыйную блакаду, наладжаную ў краіне рэжымам. Дзе б ні быў пісьменнік — дома або за мяжою, ён пастаянна адгукаецца на ўсе важныя падзеі, звязаныя з нашай Айчынай. І кожны ягоны выступ дасягае мэты. Па людской грамадзе заўсёды праносяцца не толькі пытанні: "Чулі Быкава? Чыталі Быкава?", але і пераказ пачутага, прачытанага. Сёння ў Беларусі ніводзін грамадскі дзеяч не мае такой папулярнасці і даверу...

На вайне ён часта трапляў у такія сітуацыі, калі спадзявацца на кагосьці не выпадала, а толькі на сябе. Гэткай жа асабістай адказнасцю пазначана тое, што даводзіцца рабіць Быкаву зараз.

Цяпер, калі ўсё купляецца і прадаецца: ад спажывецкіх тавараў і да месцаў у парламентах і ўрадах, калі нават слова пад пяром многіх кан'юнктурных, прыдворных журналістаў, літаратараў стала разменнаю манетаю, на тых, хто ўтрымлівае плацдарм праўды і справядлівасці, глядзяць, як на дзівакоў. Але былы франтавік ніколі не паступаецца сваімі прынцыпамі.

Аналізуючы сумніўны з пункту гледжання ўласнага і міжнароднага заканадаўства працэс аб'яднання Беларусі з Расіяй, "дзе не спыняюцца ганебныя войны, усюды ліецца кроў, нішчыцца свабода слова, а галоўнай дзяржаўнай ідэяй робіцца ўсё той жа нацыянал-імперыялізм", у сваёй кнізе-споведзі "Доўгая дарога дадому", якая нядаўна выдадзена ў Мінску і імгненна разышлася, пісьменнік гаворыць з горыччу і болем: *"У нас і ўласнага няшчасьця хоць адбаўляй. Рушыцца эканоміка, народ даведзены да галечы, гвалтам нішчацца нацыянальная культура і мова. Вельмі падобна, што дапамагчы нам ня можа ніхто — так глыбока завязьлі мы ў багне хлусьні і тыраніі, што ад нас адвярнуўся ўвесь белы сьвет. І ўсё ж нам, як тым зэкам, дужа непажадана трапіць з адной камары ў такую і іншую, асабліва калі перапынак паміж допытамі апынуўся такі кароткі.*

*Мабыць, кожнаму свой шлях да свабоды наканавана прайсьці асобна. Усё ж індывідуалізм і ў гэткім абліччы — ня самы горшы кірунак да яе. Можа, не найлепшы, але і не найгоршы, — у аснове кожнай калектыўнай свабоды ляжыць свабода індывідуальная".*

Быкаў мае права на такую жорсткую, але гранічна праўдзівую ацэнку нашай рэчаіснасці, саміх нас. Марна чакаць ад прарока салодкага словаблуддзя, папулізму. Гэтыя гульні, якія канчаюцца крахам, ён развенчвае заўсёды бязлітасна.

За плячамі народнага пісьменніка Беларусі Васіля Уладзіміравіча Быкава ляжыць вялікі шлях. Гэта шлях мужнасці, сумленнасці і любові да Беларусі. Гэта прыклад для кожнага.

Няма віны прарока і заступніка Айчыны ў тым, што многія з нас ніяк не могуць пераадолець рабскую псіхалогію, адчуць сябе свабоднымі людзьмі. Мы — кепскія вучні, бо дасюль яшчэ не ўсвядомілі, што іншай дарогі да лепшага жыцця не існуе.

І ўсё ж нейкі шанц застаецца: "...нават мы, беларусы, можам намагчыся на многае, калі прыпячэ надта пільна. Як гэта было ў мінулай вайне. Цяпер час не меней жахлівы, і клопат наш не менш пільны. Таму прачнемся ж нарэшце ды возьмемся за нарог свае вялікай патрэбы — ладзіць сапраўдную дзяржаўнасць".

Слова сказана. Разумны выбар і стваральныя дзеянні — за намі...

*Сёння ў Васіля Уладзіміравіча Быкава дзень народзінаў. Яму споўнілася 79 гадоў. Давайце разам усе мы — сябры, аднадумцы і мільённыя прыхільнікі ягонага высокага таленту — пашлем выдатнаму Творцу, Грамадзяніну, Патрыёту і слаўнаму, прыгожаму Чалавеку свае віншаванні, удзячныя словы і душэўнае цяпло. Хай яму будзе добра і светла ў гэты дзень і надалей каля цяпельца нашай павагі, шаны, захаплення і любові!*

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ.**
**Фота Віктара ЖЫЛІНА.**

***Калектыў рэдакцыі газеты "Народная воля" далучаецца да слоў С.Законнікава і зычыць шаноўнаму Васілю Уладзіміравічу яшчэ шмат сонечных дзён на роднай зямлі.***


*(Рэцэнзію на новую кнігу Васіля Быкава чытайце на 3-й стар.)*


НАШЫХ Б'ЮЦЬ!

## У Гомелі прыхлопнулі «Грамадзянскія ініцыятывы»

*Гомельскі абласны суд задаволіў днямі іск Міністэрства юстыцыі і ліквідаваў самае ўплывовае ў Гомельскай вобласці грамадскае аб'яднанне "Грамадзянскія ініцыятывы". Фармальнай прычынай закрыцця стаў Дэкрэт №8, які нібы парушылі "грамадзяне" — перш за ўсё арганізацыю абвінавацілі ў выкарыстоўванні аргтэхнікі, прадастаўленай замежнымі арганізацыямі "для выпрабу агітацыйных матэрыялаў і правядзення агітацыйна-масавай работы сярод насельніцтва", а таксама ў парушэнні парадку прыёму ў сябры аб'яднання.*

Суддзя Алена Краўчанка пацвердзіла ўсе зробленыя раней высновы Мінюста, не паспрабаваўшы, як сцвярджаюць сведкі працэсу, непрадузята разабрацца ў справе. Старшыня "Грамадзянскіх ініцыятыў" Віктар Карнеенка лічыць, што ліквідацыя аб'яднання падсякае ўвесь "трэці сектар" рэгіёна напярэдадні буйных палітычных падзей — выбараў у Палату прадстаўнікоў, магчымага рэферэндуму аб працягу паўнамоцтваў Лукашэнкі і анексіі Беларусі Расіяй.

Прыгавор суда "грамадзяне" збіраюцца абскардзіць у вышэйшых судовых інстанцыях, а таксама ў міжнародных структурах. За подпісам старшыні Гомельскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна" Анатоля Паплаўнага і старшыні Гомельскага аддзялення ГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт" А. Яўсеенкі ў шэраг дзяржаўных і міжнародных структур ужо адпраўлена заява, у якой падпісанты падкрэслілі, што рашэнне суда "з'яўляецца цалкам неабгрунтаваным з юрыдычнага пункту гледжання, таму што ў судзе не было прыведзена ніякіх абгрунтаваных доказаў парушэння "Грамадзянскімі ініцыятывамі" заканадаўства і нават не ажыццяўлялася спроба іх прывесці". *"У большасці прысутных на працэсе склалася ўстойлівае ўражанне, што суддзя разам з пракурорам проста выконваюць загад улад, і прычыны ліквідацыі "Грамадзянскіх ініцыятыў" маюць палітычны характар. У гэтым пераконвае і той факт, што аналагічныя працэсы адбываюцца і ў іншых рэгіёнах Беларусі"*, — гаворыцца ў заяве.

Памятаецца, каля месяца таму, падчас "круглага стала" прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый з чыноўнікам Мінюста Міхаілам Сухініным, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Валерый Фралоў задаў рытарычнае пытанне наконт таго, ці прадстаўляюць пагрозу канстытуцыйнаму ладу людзі, якія вырошчваюць кактусы. Прымаючы да ўвагі апошнюю актыўнасць улад у іх "наездах" на "трэці сектар", на незалежныя мас-медыя, на гуманітарны ліцэй імя Я.Коласа, здаецца, што хутка пагрозу канстытуцыйнаму ладу будзе ўяўляць нават муха. Калі, канешне, яна ўступіла ў НАТО...

**Алесь СІЛІЧ.**

## Заява дэмакратычных партый Беларусі

### У Беларусі створаны ўмовы для ліквідацыі апазіцыйных палітычных партый

Прымаючы да ўвагі, што ў Беларусі не функцыяніруе прынцып падзелу ўладаў і Нацыянальны сход фактычна з'яўляецца аддзелам Адміністрацыі А.Лукашэнкі;

канстатуючы, што Палата прадстаўнікоў не дэманструе палітычнай волі быць рэальным парламентам краіны і ўплываць на развіццё сітуацыі ў краіне;

усведамляючы, што беларускі рэжым вядзе разбуральную, дыскрымінацыйную палітыку супраць дэмакратычных партый;

прымаючы да ўвагі, што толькі чатыры члены Палаты прадстаўнікоў прагаласавалі супраць антыдэмакратычных паправак, якія рэгламентуюць дзейнасць палітычных партый,

ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ:

расцэньваюць прыняцце Нацыянальным сходам паправак у шэраг заканадаўчых актаў, якія ствараюць перашкоды для дзейнасці палітычных партый, як мэтанакіраваную спланаваную кампанію па падрыхтоўцы ліквідацыі шматпартыйнай сістэмы Беларусі напярэдадні парламенцкіх выбараў і магчымага рэферэндуму;

заяўляюць рашучы пратэст дзеянням Нацыянальнага сходу, скіраваным на ўмацаванне аўтарытарнага рэжыму ў краіне;

прызываюць міжнародную супольнасць устрымацца ад прызнання Нацыянальнага сходу як легітымнага парламента краіны і прытрымлівацца практыкі кропкавых кантактаў з асобнымі прадстаўнікамі Нацыянальнага сходу.

**В.ВЯЧОРКА (Партыя БНФ).**
**С.КАЛЯКІН (Партыя камуністаў Беларуская).**
**А.ЛЯБЕДЗЬКА (Аб'яднаная грамадзянская партыя).**
**У.СТРАХ (Беларуская партыя працы).**
**С.ШУШКЕВІЧ (Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада).**

## Хто вам скажа праўду? «Народная воля»!

Ужо сёння можна сказаць: у другой палове 2003 года Беларусь чакаюць вялікія падзеі.

Хто напіша праўду?

**«Народная воля».**

Ужо сёння жыццёвы ўзровень людзей, кажучы словамі аднаго палітыка, ніжэй калена.

Хто шчыра і адкрыта будзе адстойваць інтарэсы рабочых і калгаснікаў, пенсіянераў і студэнтаў, настаўнікаў і навукоўцаў, інжынерна-тэхнічных работнікаў і ваеннаслужачых?

**«Народная воля».**

Ужо сёння вядома: без гістарычнай памяці не можа быць будучага ў Беларусі.

Хто шчыруе на ніве нацыянальнага адраджэння Бацькаўшчыны?

**«Народная воля».**

Ужо сёння краіну захлынулі карупцыя, крымінал, алкагольнае атручванне людзей. Фактычна ідзе выміранне нацыі. Хто б'е ў званы, хто адкрыта называе гэтыя з'явы нацыянальнай катастрофай?

**«Народная воля».**

Разам з Вамі, шаноўныя сябры, мы выратуем Беларусь. Дык будзем жа падтрымліваць адзін аднаго і ў другой палове 2003 года.

Пакуль не позна, прадоўжыце, калі ласка, падпіску на другую палову 2003 года.

Калі няма магчымасці аформіць падпіску на 6 месяцаў, можна зрабіць гэта на квартал, альбо нават на месяц.

*Да заканчэння падпіскі — 4 дні. Не спазніцеся!*

**Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі!**

## Как Точило давит на подписчиков

Много обязанностей у руководителей предприятий и организаций. Но об одной вы явно не догадываетесь. Оказывается, они должны заниматься еще и подпиской на газеты. Не на все, конечно, а только на государственные, то есть на те, которые пляшут под дудку власти.

Взгляните на ксерокопию документа председателя Полоцкого горисполкома В.Точило. "Взять под личный контроль...", "О проделанной работе и результатах... проинформировать...". Как будто руководителям предприятий и организаций больше нечем заниматься! А может, и в самом деле нечем — экономика в полном провале, так что без зомбирования людей тут не обойтись. А эта миссия возложена на подкаблучные СМИ.

**Леонид КУБАЙ.**

ПОЛАЦКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ — ПОЛОЦКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ

пр. К. Маркса, 10, 211400, г. Полацк. Тэл.: 44-31-51, факс (0214) 44-83-60 — пр. К. Маркса, 10, 211400, г. Полоцк. Тел.: 44-31-51, факс (0214) 44-83-60

22.05.2003 № 664/1-18

На №

Руководителю предприятия, организации

В связи с подписной кампанией на 2-е полугодие 2003 г. необходимо восстановить уровень подписки на основные

- республиканские газеты «Советская Белоруссия», «Рэспубліка», «Звязда», «Народная газета», «Знамя юности», «Чырвоная змена», «7 дней», журнал «Беларуская думка»;
- областные «Народнае слова», «Віцебскі рабочы»;
- местную «Полацкі веснік».

Взять под личный контроль ход подписной кампании. Провести работу с индивидуальными подписчиками.

О проделанной работе и результатах подписки (с указанием выписанных экземпляров вышеназванных изданий) проинформировать отдел информации горисполкома до 20.06.2003г.

Подписка на периодические издания осуществляется предприятиями и организациями до 10 июня 2003г.

Председатель Полоцкого горисполкома В.С. Точило

